**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№18(630)**
**3 траўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






■ **Ксёндз Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*

**У невялікай вёсачцы Савуткі Шаркоўшчынскага раёна 29 красакавіка ва ўспамін святога Юзафа-рамесніка ў першы раз адбыўся фэст баяністаў.**

У шэрасці працоўных будняў святы Юзаф, наш апякун, вучыць нас адпачываць, таму на фэст, на свята сабралася ўся вёска.

Пасля ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў душпастыр парафіі ксёндз Аляксей Юркайць, вернікі працягнулі святкаванне разам з глыбоцкімі баяністамі Юзафам і Данілай аж да позняга вечара: спявалі песні, на вогнішчы смажылі каўбаскі, а потым танцавалі прыгожыя даўнейшыя танцы.

Гук баяна не заставіў без узрушэння нікога з жыхароў: кожны з настальгіяй успамінаў былыя часы, калі шматлікія людзі збіраліся “на сяло” і весела бавілі час. Няшмат ужо засталося жыхароў, вёска паволі занікае, але чаканне фэсту святога Юзафа дадасць нам сілы, каб і ў наступным годзе мы змаглі праславіць Бога і цудоўна адсвяткаваць!!!

## У Беларусі з'явіўся новы горад

**Такі статус атрымаў гарадскі пасёлак Астравец.**

З 28 красавіка Астравец афіцыйна лічыцца горадам. Пра гэта паведаміў старшыня Астравецкага раённага Савета дэпутатаў Валерый Барташэвіч. «28 красавіка 2012 года гарадскі пасёлак Астравец аднесены да горада раённага падпарадкавання. Рашэнне Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў, прынятае 4 красавіка бягучага года, уступіла ў сілу 2012/04/28 г., так як яно апублікавана ў газеце «Гродзенская праўда», якая з'яўляецца афіцыйнай крыніцай апублікавання прынятых рашэнняў», – распавёў ён.

*Kraj.by*

### Полацкі раён

# Турыстычны комплекс ля святынь

■ Станіслаў Раманчук

**Самы старажытны горад краіны Полацк апошнім часам стаў адным з цікавейшых у Беларусі для турыстаў, хоць да сапраўднай турыстычнай Меккі яму яшчэ далёка.**

Аб гэтым пагадзіліся ўдзельнікі нядаўняй сесіі гарсавета дэпутатаў, на якой абмяркоўвалася будучая інфастуктура горада вакол ягоных святынь – Сафійскага сабора і Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Гэта пытанне таксама атрымала падтрымку і на дзяржаўным узроўні, а А. Лукашэнка запатрабаваў стварыць там буйны культурна-гістарычны цэнтр на плошчы 149 гектараў. У такім выпадку падарожнікі з розных краін свету ў Полацку будуць спыняцца не на адзін дзень, як цяпер, а на значна болей. Аднак, пакуль тэрыторыя вакол галоўных мясцін у горадзе непрыглядная, а берагі рэчкі Палаты зарослыя і нядобраўпарадкаваныя. На тое, каб зрабіць тут сапраўдны Полацкі пасад для паломнікаў, спатрэбіцца сама меней 2 трыльёны рублёў. Кіраўніцтва вобласці разлічвае, што на працягу чатырох наступных гадоў удасца ажыццявіць намечанае. На першым этапе плануецца аднавіць сцежку святой заступніцы Беларусі Еўфрасінні ўздоўж ракі Палата і вакол тэрыторыі Верхняга замка. Інстытут "Віцебскграмадзянпраект" распрацоўвае праект расчысткі гэтай вадзяной артэрыі. Тут мяркуюць аднавіць манастырскі вадзяны млын і размясціць у ім кафэ. Гораду крайне не хапае гасцініц і аб'ектаў грамадскага харчавання. Важна пры гэтым захаваць баланс паміж духоўнымі і свецкімі інтарэсамі, каб зоны адпачынку не перашкаджалі спецыфічнаму манастырскаму жыццю і духоўнаму спакою.

### Пастаўскі раён

# Сумаваць не выпадае

■ Кастусь Александровіч

**Асобныя людзі маладога ўзросту лічаць, што ў глыбінцы жыць не зусім цікава, няма чым заняцца ў вольны час.**

Але заўсёды пры жаданні можна зрабіць сваё жыццё і там цікавым і багатым на розныя запамінальныя падзеі, як гэта пачалі арганізоўваць у Пастаўскім раёне. З вялікім поспехам у райцэнтры прайшоў чарговы VI рэспубліканскі турнір юных эрудытаў на Кубак Зюзі Паазерскага. У Паставы прыехалі нават 33 каманды з розных гарадоў краіны, якія ў трох узроставых групах выяўлялі мацнейшых у папулярных гульнях: "Што? Дзе? Калі?", "Свая гульня" і "36,6". Абсалютным пераможцам і уладальнікам галоўнай узнагароды стала каманда гаспадароў з раённага цэнтра дзяцей і моладзі на чале з капітанам Ягорам Недзведзем. Гэты поспех натхніў і працуючую моладзь раёна, таму затым у канцэртнай зале раённага Дома культуры ўпершыню правялі і маладзёжны турнір па "Брэйн-рынгу". Сярод 10 каманд удзельніц захапляльнага шоу ў фінале маладыя спецыялісты лясгаса перамаглі каманду райкамунгаса, а трэцяе месца заваявалі эрудыты з гарпасёлка Варапаева. На працягу двух дзён у райцэнтры з поспехам прайшоў раённы конкурс выканаўцаў эстраднай песні "Пастаўскія зоркі" адразу ў трох узроставых групах. Таксама вельмі цікава было гледачам назіраць за выступленнямі сямі каманд аграгарадкоў Пастаўшчыны ў гульнях Клуба вясёлых і знаходлівых. Як аказалася, вясковая моладзь сябруе з гумарам, што засведчылі яе выступленні на сцэне Дамоў культуры ў Дунілавічах і Кураполлі, а лепшую гульню паказалі там каманды "Зборная нашага гарадка" (Варапаева) і "Ну вы, блін, даяце" (Кураполле).

### Мёрскі раён

# Асечка кантрабандыста

■ Чэслаў Якубовіч

**Нават легальным бізнесам не заўсёды атрымоўваецца ў Беларусі займацца належным чынам, без матання нерваў.**

Калі ж нехта стане весці рызыкоўныя справы, то ён , напэўна, занадта рызыкоўны чалавек. Такім чынам і жыхар Мёр трапіў днямі ў вельмі непрыемную для сябе гісторыю з сумнымі наступствамі. У ходзе вобыску падчас праверкі аператыўнай інфармацыі апергрупа ў складзе супрацоўнікаў КДБ, Полацкага пагранатрада і міліцыі дома ў ягоным гаражы і ў гаспадарчых пабудовах знайшла схаваныя амаль 90 тысяч пачак цыгарэт на агульную суму амаль 240 млн. рублёў. Зразумела, каб выкурыць столькі атруты, цэлага жыцця не хопіць. У той дзень гэтыя цыгарэты былі канфіскаваныя і перададзеныя ў Наваполацкі міжраённы аддзел фінансавых расследванняў Камітэта дзяржкантролю. Цікава, што гэты прадпрымальны грамадзянін раней ужо праходзіў па адной справе групы асоб, якія спрабавалі пераправіць праз дзяржаўную мяжу ў Латвію таксама кантрабандную партыю цыгарэт. Зараз наступствы для яго могуць быць яшчэ больш сур'ёзныя. Следчыя бачаць у дзеяннях жыхара райцэнтра прыкметы злачынства, звязаныя з парушэннямі парадку абароту алкагольнай прадукцыі і тытунёвых вырабаў. Характэрна, што днём раней у Мёрах была знойдзена на сядзібе яшчэ аднаго жыхара, праўда, значна меншая партыя гэтага тавару, усяго 256 пачак цыгарэт. І навошта траціць столькі грошай на тавар, які вельмі шкодны для здароўя?

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.05.12 | | | | Пятніца 04.05.12 | | | | Субота 05.05.12 | | | | Нядзеля 06.05.12 | | | | Пнд. 07.05.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +10 | +18 | +13 | +7 | +14 | +25 | +19 | +14 | +15 | +20 | +14 | +8 | +12 | +22 | +17 | +11 | +8 | +13 |
| Ціск | 745 | 745 | 744 | 743 | 741 | 741 | 739 | 737 | 735 | 737 | 739 | 742 | 743 | 745 | 743 | 740 | 740 | 745 | 749 |
| Вільготнасць | 85 | 57 | 32 | 66 | 76 | 61 | 37 | 58 | 86 | 81 | 53 | 64 | 80 | 64 | 47 | 55 | 82 | 73 | 42 |
| Вецер м/сек | 3 С-З | 3 С | 0 ШТЛ | 2 В | 3 Ю-В | 3 Ю | 6 Ю | 5 Ю | 4 Ю-З | 4 З | 6 З | 3 З | 2 С-З | 2 С-В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 7 Ю-З | 8 З | 3 С-З |



# Лічба нумара

**1,2** – столькі мільёнаў квадратных метраў не звычайнага, а энергаэфектыўнага жылля даручана ўзвесці сёлета ў Беларусі. Што ні кажыце, а перад айчыннымі будаўнічымі арганізацыямі і мясцовымі ўладамі пастаўлены няпростыя задачы, бо прагназуецца адчувальнае зніжэнне аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва ў 2012 годзе. Дарэчы, летась такіх жылых дамоў, якія не выпускаюць на вуліцу цяпло, у нашай краіне ўзвялі толькі агульнай плошчай 476 тысяч квадратных метраў пры заданні 600 тысяч.

Да таго ж ужо трэць года засталася пражытая, а ў 1-м квартале беларускім будаўнікам удалося ўвесці ў эксплуатацыю ўсяго каля 1,2 млн. "квадратаў" жылплошчы. І самае галоўнае, кошт квадратнага метра ў такіх сучасных камфортных дамах, дзе адчувальна меней жыхарам трэба плаціць за энергаспажыванне і ацяпленне, на 10-15 % даражэйшы, чым у дамах, пабудаваных больш звыклым спосабам з таннейшых матэрыялаў. Адначасова не ад добрага жыцця беларускія ўлады пачалі рыхтаваць і ажыццяўляць на практыцы новую канцэпцыю жыллёвай палітыкі і матываваць грамадзян да больш актыўнага індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва.

У жыццёвы абыход запушчана і новае паняцце "арэнднае жыллё". У беларускай сталіцы, дзе найбольшая жыллёвая чарга, да канца года загадана пабудаваць такіх дамоў са статусам арэндных 46 тысяч кв. м. Сярод ахвотнікаў мінчан, якія стаяць у чарзе на атрыманне падобнага жылля, пачалі размяркоўваць кватэры са сфарміраванага першаснага жылфонду арэнднага жылля. Праз 4 гады з новага жылля ў сталіцы фонд арэндных кватэр складзе ўжо 600 тысяч квадратаў. На месцах у глыбінцы таксама рамантуюць альбо будуюць гатовыя арэндныя кватэры і дамы, дзе можна жыць, плаціць па некалькі соцень без уліку аплаты камунальных паслуг, але не быць іх уласнікам.

Такое арэнднае жыллё павінна зацікавіць маладых спецыялістаў, маладыя сем'і, якім абрыдла жыць на здымных кватэрах, па чужых вуглах. А само Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва РБ плануе выйсці да 2015 года з улікам існуючага жылфонду на ўзровень 2 млн. кв. метраў арэнднага жылля, якое будзе прадастаўляцца людзям, як запэўніваюць ва ўрадзе, па даступных цэнах. Акрамя гэтага пачалі актыўна гаварыць аб магчымасці пераводу ў разрад арэнднага жылля і існуючых інтэрнаты. З іншага боку, такія перамены могуць паўплываць на сітуацыю на рынку працы, талковыя спецыялісты хутчэй будуць рашаць пераязджаць у новыя месцы для атрымання высокааплатнай і прэстыжнай работы.

Безумоўна, жыллёвае пытанне хвалюе большасць беларускіх грамадзян. А праз 3 месяцы, як пачаў дзейнічаць прэзідэнцкі Указ № 13 па сферы жыллёвага будаўніцтва, у яго ўжо ўнеслі дапаўненні і змены. Галоўнае, што на ранейшых умовах дакрэдытуюць усе сем'і (па папярэдніх разліках іх будзе 15-16 тысяч), якія заключылі дагаворы на льготнае крэдытаванне з Беларусбанкам, але потым не трапілі ў лік ільготнікаў па новых умовах. Увогуле ў нас адкрыта гавораць, што паступова катэгорыі беларускіх ільготнікаў па будаўніцтву жылля скароцяць.

Пакуль жа сёлета з дзяржаўнай падтрымкай у Беларусі плануецца ўзвесці каля 60 % жылля з агульнага аб'ёму 5,2 млн. кв. м, што пацвердзіў падчас рабочай паездкі па Віцебшчыне віцэ-прэм'ер па будаўніцтву Анатоль Калінін. Тым, хто жадае будавацца самастойна, мяркуецца дапамагчы бясплатным выдзяленнем зямлі, узвядзеннем дарог, інжэнерных сетак, іншай неабходнай інфраструктуры ў раёнах індывідуальнай забудовы.

Як падаецца, дзяржава сур'ёзна збіраецца неўзабаве давесці долю прыватніка да 50 % у агульных аб'ёмах узводзімай жылплошчы.

На фоне гэтых аптымістычных планаў трывожна, што многія лепшыя кваліфікаваныя беларускія будаўнікі працуюць ужо на замежных будоўлях, бо нават ва Украіне зараз можна зарабіць да тысячы долараў у месяц, а ў Расіі – яшчэ болей, да 2 тысяч USD. Колькі прадоўжыцца пэўнае зацішша на будоўлях у Беларусі, пакуль цяжка сказаць. Аднак нават пры цяперашнім зніжэнні аб'ёмаў будаўніцтва, варта думаць і пра заўтрашні дзень галіны, мадэрнізацыю і тэхпераўзбраенне домабудаўнічых камбінатаў, аснашчэнне будтрэстаў сучаснай тэхнікай і пра дастойныя ўмовы працы, бытоўкі і заробкі для тых, хто звязаў свой лёс з нялёгкай, але такой пачэснай прафесіяй будаўніка.

## Дзень за днём

**Да восені даручыў А. Лукашэнка вырашыць у Беларусі зямельнае пытанне, знайсці баланс паміж інтарэсамі людзей і дзяржавы. З будучага года ў краіне аб'яўлены новы курс на велізарную меліярацыю зямель, а пакуль выраслі закупачныя цэны на малако і мяса. Нацбанк РБ аб'явіў, што не збіраецца ўводзіць расійскі рубель на беларускай тэрыторыі, адмаўляцца ад нацыянальнай валюты і ад сваёй незалежнай грашова-крэдытнай палітыкі. У адносінах Беларусі з Еўрасаюзам намецілася прымірэнне пасля вызвалення з турмаў А. Саннікава і яшчэ некалькіх палітзняволеных.**

# Важнейшыя навіны свету

**Аргентына.** Сур'ёзна абвастрыліся адносіны краіны з Іспаніяй і ЕС пасля рашэння аргенцінскага прэзідэнта нацыяналізаваць буйную нафтавую кампанію іспанцаў.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў расстрэл у Катыні больш 21 тысяч польскіх ваеннапалонных ваенным злачынствам, але не аднавіў расследванне справы.

**КНДР.** Сусветная дыпламатыя глыбока расчаравалася ў новым лідары краіны Кім Чэн Ыну, ён працягвае рэпрэсіі пасля канфузу з ракетай і выпрабаванні ядзернай зброі.

**Манголія.** Пасля працяглай перастрэлкі спецназ арыштаваў у сталіцы трэцяга па ліку прэзідэнта посткамуністычнай краіны Н. Энхбаяра за карупцыю падчас свайго праўлення.

**Гвінея-Бісау.** У выніку чарговага перавароту ваенныя ўзялі ўладу ў адной з бяднейшых краін свету, прыпынілі вяшчанне радыё і ТБ, арыштавалі палітычную эліту і прэзідэнта.

**Чэхія.** Удзельнікаў антыкамуністычнага супраціўлення ў краіне прыраўнялі да ветэранаў, яны атрымалі розныя льготы, павышаныя пенсіі і выплаты кампенсацый да 100 тыс. крон.

**Нарвегія.** Абвінавачаны ў забойстве 77 суайчыннікаў Б. Брэйвік заявіў, што зрабіў гэта з мэтай самаабароны і не раскайваецца, эксперты за не прызнала яго душэўна хворым.

**Азербайджан.** З-заўцечкі газу ўзарваўся газапровод Маздок-Казімагамед, узнік пажар з вышынёй полымя 150 метраў, вогнішча бушавала некалькі гадзін, пакуль газ не выгарэў.

**Індыя.** Больш 120 рабочых апынуліся пад заваламі пасля выбуху ў кацельнай і абрушэння будынка ноччу тэкстыльнай фабрыкі ў штаце Пенджаб, ёсць ахвяры і шмат параненых.

**КНДР.** Камітэт абароны правоў чалавека (ЗША) заявіў, што ў краіне ў жудасных умовах у турмах пакутуюць больш 150 тысяч палітзняволеных, адсюль уцяклі звыш 30 тысяч.

**Расія.** Упаўнаважаны па правах чалавека Уладзімір Лукін не пагадзіўся з тым, што РФ можа забараніць выезд за мяжу апазіцыйным грамадзянам Беларусі, бо гэта беззаконне.

**Узбекістан.** Улады краіны назвалі паклёпам перадачу на Бі-бі-сі аб сакрэтнай праграме стэрылізацыі жанчын-парадзіх для змяншэння нараджальнасці ў краіне з 28 млн. жыхароў.

**ЗША.** Сусветна вядомыя зоркі Галівуда Анджэліна Джолі і Брэд Пітт аб'явілі аб сваім шлюбе, яны жывуць разам ужо 7 гадоў, маюць трох сваіх і трое прыёмных дзяцей.

**Украіна.** Усе білеты тут і ў Польшчы, як заявіў чыноўнік УЕФА Марцін Каллен, на матчы чэмпіянату Еўропы па футболе прададзены, было 12 млн. заявак, няма і месцаў у гатэлях.

**Швейцарыя.** Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея Рэне Фазель выказаў упэўненасць, што чэмпіянат свету 2014 года пройдзе ў Беларусі, але пытанне аб пераносе можа разглядацца.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Барысаў.** На пляцоўцы завода "Аўтагідраўзмацняльнік" да 2015 года, як паабяцаў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, узвядуць завод па зборцы да 60 тыс. кітайскіх аўто штогод

**Мінск.** Беларусы перастануць масава ад'язджаць на работу за мяжу, пацвердзіў міністр эканомікі РБ М. Снапкоў, калі пачнуць зарабляць 80 % ад узроўню заробкаў суседзяў.

**Столін.** Прэзідэнт РБ падчас наведвання раёна запатрабаваў да восені кроў з носу завяршыць усе работы па рэканструкцыі і пераасныашчэнню 1200 жывёлагадоўчых ферм.

**Гомель.** Пасажыраў вобласці пачаў перавозіць першы сучасны аднавагонны дызель-цягнік, выраблены сумесна з Польшчай, да канца года з'явіцца ў РБ яшчэ 5 такіх машын.

**Мінск.** З-за малых заробкаў толькі з аб'яднання "Мінскбуд" за год звольніліся больш 11 тысяч будаўнікоў, няхватка кадраў стала катастрафічнай, не выконваюцца планы.

**Чэрвень.** Жыхары раёна даведаліся, што восенню можа паляцець у космас у складзе экспедыцыі іх зямляк, ураджэнец райцэнтра, 41-гадовы палкоўнік ВПС Расіі Алег Навіцкі.

**Мінск.** Былы генпракурор, цяпер загадчык кафедры юрфака БДУ Рыгор Васілевіч заявіў, што смяротнае пакаранне ў Беларусі можна адмяніць і без абавязковага рэферэндуму.

**Жодзіна.** Канструктары ААТ "БелАЗ" пачалі ствараць самазвал грузападымальнасцю 420 тон, гэты суперґрузавік будзе пастаўлены на канвеер ужо ў будучым годзе.

**Мінск.** Запуск беларускага касмічнага спутніка, як пацвердзілі ва ўрадзе РБ, запланаваны на 7 чэрвеня, яго тэрміны неаднаразова пераносіліся, планаваўся запуск у пачатку 2011 года.

**Магілёў.** У абласным анкалагічным дыспансеры адкрылі новы лячэбны корпус, у якім 120 ложкаў і тры навейшыя тамографы для выяўлення паталогій раку на ранняй стадыі.

**Гродна.** З-за ўласнай няўважлівасці жанчына – індывідуальны прадпрымальнік страціла 30 тысяч долараў, калі выходзіла са сваёй машыны і забылася зачыніць салон машыны з грашыма.

**Рагачоў.** Жыхарка райцэнтра па суду спагнала з райкамунгаса больш 7 мільёнаў рублёў кампенсацыі траўмы, яна летась трапіла на веласіпедзе ў яму на дарозе і выбіла 3 зубы.

**Шклоў.** Дырэктар СВК "Гарадзец" Алег Леснік прызнаўся Еўрарадыё, што ў зямлякоў Аляксандра Лукашэнкі няма "гаспадарскай жылкі", яны працуюць у гаспадарцы без энтузіязму.

**Магілёў.** Чацвёра маладых жыхароў абласногацэнтра затрымалі ў Віцебску за злоснае хуліганства, яны размалявалі графіці салон, 2 тамбуры і туалет дызельцягніка.

**Нясвіж.** Па патрабаванні гісторыкаў і спецыялістаў у мясцовым замку замянілі на вежы памылковы купал – "цыбуліну" на новы вагой 18 тон, адпавядаючы гістарычнай праўдзе.

## З 29 красавіка павышаюцца адпускныя цэны на прадукты




■ БелТА

Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі ад 26 красавіка № 35 «Аб цэнах на сацыяльна значныя тавары і прызнанні страціўшымі сілу некаторых пастаноў Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь», паведамілі БелТА ў аддзеле па сувязях з грамадскасцю Мінэканомікі.

Дакумент распрацаваны ўзамен пастановы Мінэканомікі ад 27 красавіка 2011 г. № 65 «Аб цэнах на сацыяльна значныя тавары і прызнанні страціўшымі сілу некаторых пастаноў Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь», якое прызнаецца страціўшым сілу.

У прыватнасці, павялічаны гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малако каровіна пастэрызаванае і кефір з каровінага малака тлустасцю да 3,5% уключна, смятану тлустасцю да 25% уключна, тварог тлустасцю да 9% уключна, без смакавых дабавак і напаўняльнікаў - на 10%, хлеб жытне-пшанічны, батоны і перапечкі з пшанічнай мукі няздобныя вагой ад 300 грамаў і больш - на 5%.

Пастанова № 35 уступае ў сілу ад 29 красавіка.

Павялічаныя і гранічныя мінімальныя цэны на алкагольную прадукцыю моцнасцю звыш 28%. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрствам эканомікі ад 26 красавіка 2012 № 36 «Аб унясенні змяненняў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 31 сакавіка 2011 года № 49».

З увядзеннем у дзеянне гэтай пастановы вытворцы і імпарцёры алкагольнай прадукцыі, а таксама гандлёвыя арганізацыі павінны рэалізоўваць алкагольную прадукцыю моцнасцю звыш 28% па цэнах, не ніжэйшых за вызначаныя дадзенай пастановай. Дакумент уступае ў сілу з 29 красавіка пасля яго афіцыйнага апублікавання ў газеце «Рэспубліка» (28 красавіка).

Згодна з пастановай, за 0,5 л 40-градуснага алкаголю, выраблены і рэалізаванага ў Беларусі, лімітавая мінімальная рознічная цана з ПДВ вырасце ўдвая. Яна складзе Br19,6 тыс. (Раней дзейнічала цана Br9,4 тыс.)

Адпускная цана франка-адпраўлення (без ПДВ) - Br14,2 тыс. (Раней - Br6,83 тыс.). Мінімальная адпускная цана на імпартныя алкагольныя напоі, што рэалізуюцца ў Беларусі, без ПДВ складзе Br28,4 тыс. (Раней - Br13, 65 тыс.).

Павышаюцца таксама гранічныя мінімальныя адпускныя кошты на этылавы спірт з харчовай сыравіны. Цяпер дыяпазон коштаў франка-адпраўлення без ПДВ за дэкаліт бязводнага спірту ўсталяваны ад Br62 тыс. да Br281,2 тыс. (Раней - ад Br30 тыс. да Br134,2 тыс.).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Сянно.** Адразу пяцёра маладых жыхароў райцэнтра загінулі ў ДТЗ у Ліпецкай вобласці, яны ехалі на заробкі ў Расію ў Варонежскую вобласць, яшчэ трое хлопцаў паранены.

**Орша.** КДБ па Віцебскай вобласці спыніў злачынную дзейнасць кіраўніцтва мясакансервавага камбіната на чале з гендырэктарам, яны нанеслі яму ўрон на суму 2 млн. $.

**Віцебск.** На бягучы рамонт дзіцячых аздараўленчых лагераў аблвыканкам выдзеліў 960 млн. рублёў, бюджэтныя датацыі за пуцёўку будуць 605 тысяч, даплата бацькоў – 445 тыс.

**Гарадок.** Калгас імя Дзімітрова для аднаўлення закінутага жывёлагадоўчага комплексу наняў брыгаду будаўнікоў са Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, яна працавала і летась.

**Браслаў.** Запасы гатовай прадукцыі на складах вытворцаў раёна дасягнулі 8,7 млрд. рублёў, 95 % сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці, не хапае ўрачоў, спецыялістаў АПК.

**Віцебск.** Авіябомба, якую знайшлі на навабудоўлі жылога шматкватэрнага дома побач з СШ № 40, стала прычынай экстранай эвакуацыі адсюль каля 300 дзяцей і дарослых.

**Глыбокае.** У рамках падрыхтоўкі да Дня беларускага пісьменства ў горадзе з'явілася першае жалезнае дрэва – клён, яго вырабілі на МКК, лісты зрабілі з каляровага пластыку.

**Віцебск.** Судпрыгаварыў раней судзімага гараджаніна-безбілетніка да 4 гадоў турмы за нападзенне летась у тралейбусе з нажом на другога пасажыра пасля выказанай ім заўвагі.

**Мёры.** Каб хутчэй запасціся спіртным у райцэнтры, вартаўнік адной з баз адпачынку без вадзіцельскіх правоў угнаў і разбіў аб прыдарожнае дрэва аўтамабіль свайго дырэктара.

**Полацк.** На гарадской вуліцы днём на пашталёна напаў малады мужчына і забраў сумку з 7,2 млн. рублёў для пенсіянераў, міліцыя затрымала 21-гадовага беспрацоўнага.

**Віцебск.** Брэсцкі абласны суд пакараў двух віцяблян 14 і 15 гадамі турмы за разбойнае нападзенне яшчэ ў 2004 г. у Польшчы пад выглядам паліцэйскіх на жыхароў Брэстчыны.

**Дуброўна.** На вуліцы райцэнтра ДАІ затрымала грузавы мікрааўтобус, на якім жыхар Магілёва вёз на продаж у Смаленск (Расія) 9 тон цукру па фальшывых дакументах.

**Віцебск.** У апошні момант гарадскія ўлады выдзелілі сродкі і на базе былога дублюючага складу стварылася каманда "Віцебск-2" для ўдзелу ў 2-й лізе чэмпіянату РБ па футболе.

**Паставы.** У рамках XV Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" упершыню пройдзе конкурс-пленэр каменячосаў, прыедуць музыканты Турцыі, Францыі.

**Віцебск.** Гаспадарчы суд вобласці пакараў буйным штрафам супрацоўніцу рэкламнай фірмы, якая стала гандляваць бясплатнымі білетамі-запрашэннямі на канцэрты зорак.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Збор вод (мікве) назваў Ён морамі»

■ **Уладзімір Скрабатун**

Тэлефануе аўтару гэтых радкоў Антон Астаповіч, старшыня Грамадскага аб'яднання «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» і пытае: «Валодзя, ці стаіць яшчэ вашая глыбоцкая міква? Мы збіраемся прыехаць, зрабіць замеры будынка, зафатаграфаваць, зрабіць рэканструкцыю аб'екта і падаць дакументы ў Міністэрства культуры з прапановай надаць глыбоцкай мікве статус помніка архітэктуры...»

– Няма ўжо міквы! Тыдзень-другі як разбурылі,– кажу. Толькі крушня камянёў і цэглы засталася. Яшчэ не вывезлі. Да Дня беларускага пісьменства тут будзе аўтастаянка.

– Шкада! Тым больш трэба прыехаць. Прыеду з Антонам Вантухам, архітэктарам нашага Таварыства. Замерым тое, што засталося.

## Што такое міква?

Міква [альбо, дакладней – мікве (на іўрыце – הָוְקִמ)] гэта – яўрэйская рытуальная лазня.

Слова «мікве» ўпершыню згадваецца ў Кнізе Быццё: «збор вод (мікве) назваў Ён морамі» (Быццё.1:10), (םימי ארק םימה הוקמלו). Слова мікве літаральна азначае «збор, скупнасць» вады, водны рэзервуар для абмывання (твіла) з мэтай ачышчэння ад рытуальнай нечысціні. Міква ўяўляе сабою рэзервуар з мінімальнай колькасцю вады ў 40 сеа (паводле розных падлікаў – ад 250 да 1 тыс. літраў).

У Торы згадваюцца наступныя сітуацыі, калі настае апаганенне (на іўрыце – האמוט, тум'а): дакрананне да мерцвяка, дакрананне да таго, хто датыкаўся да мерцвяка, знаходжанне пад адным дахам з мерцвяком, дакрананне да мёртвых жывёл, семявывяржэнне, з'яўленне менструальнай крыві ў жанчын, заражанасць праказай ці ганарэяй.

Чалавек, які стаў нячыстым (на іўрыце – אמט, таме), не можа ўваходзіць у Храм. Коэны (святары) не павінны былі таксама, бьўшы нячыстымі, есці ежу, якую яны атрымлівалі ад народа ў сілу сваёй пасады.

Спосабы ачышчэння ад кожнага віду рытуальнай нечысціні адрозніваюцца, аднак ва ўсіх выпадках без акунання ў мікве ачышчэнне не настае. Для ачышчэння ад рытуальнай нечысціні патрабуецца акунанне ў ваду. Мудрацы распрацавалі рэгламент такога акунання, у прыватнасці, усталявалі памеры ўжывальнага басейна, выпрацавалі патрабаванні да крыніцы, адкуль у басейн пастурае вада і зафіксавалі назвы.

## У наш час

Сёння законы рытуальнай чысціні выконваюцца не так строга, як раней. Адзіны выпадак, калі гэтыя законы выконваюцца досыць строга, – гэта забарона жанчыне ўступаць у палавую сувязь з мужам да завяршэння менструальнага крывацёку і наступнага абмывання ў мікве.

Лічыцца непрыстойнай сустрэча ў мікве маці і дачкі.

У мужчын прынята акунацца ў мікве пасля семявывяржэння, а таксама перад святамі, асабліва перад Йом-Кіпур. Шматлікія артадаксальныя яўрэі акунаюцца ў мікве перад Шаббатам, а некаторыя хасіды – штораніцы перад малітвай.

Абавязкова акунанне ў мікве пры гіюрэ.

У мікве таксама акунаюць посуд, які належыў неяўрэям, у прыватнасці новы посуд, які не выраблены на яўрэйскай фабрыцы, перад яе выкарыстаннем.

## У глыбоцкай мікве мылі п'яніц!

У 1960-я гг у будынку колішняй яўрэйскай рытуальнай лазні – міквы – размяшчалася гарадская лазня.

Я яшчэ паспеў у гэтай лазні памыцца... Потым узвялі новы будынак лазні.

Гэтая ранейшая гарадская лазня (колішняя міква) засталася ў маёй памяці адным інтымным эпізодам. Раней жа, як было? Бярэ маці малога сына (узростам гадоў да 5-і) і ідзе з ім, зразумела, мыцца ў жаночае аддзяленне. Так было і са мной. І памятаю, як усе жанчыны ўшчухарыліся на маю маці, маўляў: чаго прывяла такога вялікага мальца ў лазню да жанчын, ён жа ўжо ўсё разумее.

Па-праўдзе кажучы, да гэтага моманту, аніяк я не задумваўся, куды ж, урэшце рэшт, завяла мяне маці? Не разумеў і не ўсведамляў, што жанчына неяк можа быць устроеная інакш, чым мужчына! Пасля гэтага эпізоду «празрэў», але й паходаў у жаночую лазню ў мяне больш не было.

І ўсё ж, ёсць яшчэ не менш забаўляльная гісторыя! Пасля гарадской лазні (колішняй міквы) у гэтым будынку размяшчаўся медыцынскі выцвярэзнік. Парадокс гісторыі – у колішняй мікве мылі нашых тутэйшых п'яніц! Ачышчалі ад алкаголю!

Калі спадар Астаповіч даведаўся, што тут калісь існаваў выцвярэзнік, пажартаваў: «Гэта ўжо не першы выпадак на Беларусі, калі ўлады зносяць выцвярэзнікі. Нядаўна і Навагрудак пазбавіўся свайго выцвярэзніка!»

## Лазерная рулетка!

Я ўсё думаў: як спадары Астаповіч і Вантух будуць мерыць усе параметры будынка колішняй міквы? Крушня цэглы і камення! Як памерыць тады, калі не магчыма нічога памерыць? Як расцягнуць рулетку, калі шмат перашкодаў?

І тут я зразумеў, што мой досвед інжынера-геадэзіста і колішняга прараба, трэба спісаць ва ўтыль, з-за непатрэбнасці ў найноўшы час. Тэхналогіі вымярэння даўно выйшлі на новы ўзровень!

Лазерная рулетка! Хто б мог падумаць! Не трэба поўзаць па крушні з рулеткай, баючыся атрымаць траўмы.

Антон Вантух трымае ў руках прыбор, велічынёй з мабільны тэлефон, пускае чырвоны лазерны прамень, а на другім баку спадар Астаповіч прымае яго на чорны планшэт. На маніторы: метры, сантыметры, міліметры.



**Антон Астаповіч (справа) і Антон Вантух робяць абмеры колішняй і разбуранай глыбоцкай міквы.** *Фота Ул. Скрабатуна, 28.04.2012 г.*

Занатоўвай!

## Калі пабудаваная глыбоцкая міква?

Калі пабудаваная глыбоцкая міква? Цяжка адразу адказаць на такое пытанне. Вялікамерная цэгла памерам 330х180х50мм, якая складае ўнутраную тоўшчу сцяны, нібыта, без сумневу, кажа: міква, пабудаваная разам з сінагогай (знішчаная ў апошнюю вайну) у сярэдзіне XVIII ст. Аднак, звонку будынак абліцаваны цэглай амаль што сучасных памераў, г.зн. дарэвалюцыйных, яшчэ царскіх часоў. На тое ёсць два меркаванні: 1) міква пабудаваная ў XVIII ст. і пазней была абліцаваная цэглай «сучасных» памераў. 2) міква была пабудаваная ў канцы XIX ст., для забутоўкі выкарыстаная вялікамерная цэгла ад разборкі карпусоў кармеліцкага кляштара.

Спадар Астаповіч сцвярджае: лепш мікву змаладзіць, чым беспадстаўна састарыць на XVIII ст.

## Мікітка і была тым морам вады

Глыбоцкая міква стаіць (ужо – стаяла!) на беразе ракі Мікіткі. Яна і была тым морам вады – міквай. Можна адназначна сцвярджаць, што пабудова на гэтым месцы яўрэйскай рытуальнай лазні сведчыць толькі аб адным – вада ў Мікітцы, у яшчэ не вельмі даўнія часы, была крыштальнай чысціні. І была яна разы ў тры шырэйшая, у ёй было шмат рыбы, заходзілі на нераст шчупакі... Гэта цяпер Мікітка сталася водасцёкавай канавай, якая збірае нечыстоты з добрай паловы горада і нясе іх у возера Кагальнае, паўз ужо знішчаную мікву.

Яшчэ адзін злы жарт гісторыі! Раней яўрэі ачышчаліся вадой Мікіткі. Цяпер жа ад вады з Мікіткі можна падчапіць любую заразу, атрымаць розныя хваробы і атручванні.

## Падведзена рыса. Канец яўрэйскаму Глыбокаму!

У нас на Беларусі любое свята: ці Дзень пісьменства, ці Дажынкі, пераўтвараюцца ў катастрофу. Буйнамасштабна зносяцца гістарычныя будынкі альбо будынкі, якія не з'яўляюцца архітэктурнымі помнікамі, але маглі імі стаць, па той прычыне, што проста не паспелі своечасова падаць адпаведныя дакументы ў Міністэрства культуры.

Улады па ўсёй Беларусі не лічаць мэтазгодным кансультавацца з краязнаўцамі і гісторыкамі. «Мы й самі з вусамі!». Без вас дадзім рады!

Не было б Дня пісьменства – стаяла б міква і сёння. Спадар Астаповіч паспеў бы падаць дакументы ў Міністэрства культуры аб наданні глыбоцкай мікве статуса ахоўваемага помніка гісторыі. А глыбоцкія ўлады паспяхова маглі б «развесці яўрэяў на бабкі». Па свеце жыве шмат багатых яўрэяў! Скінуліся б на аднаўленне ўсяго сінагагальнага комплексу: сінагогі, ешывы, міквы, іншых будынкаў.Можна было б праводзіць у Глыбокім Дні яўрэйскай культуры на Беларусі. Прыязджалі б багатыя яўрэі, кінулі б гораду рубель-другі...

Знеслі з няведання мікву... Ну й чаго дамагліся? Ну, пабудуюць аўтастаянку да свята. Пройдзе свята! І кіне вока на гэтае месца нейкі прыезджы грузін для новай крамы...

## Ствараецца яшчэ адзін аграгарадок!

– Вельмі шкада, што Глыбокае, як горад з вялікай гісторыяй, шматвекавой культурай штогод, а то й штодня, планамерна знізпадае да ўзроўню звычайнага сельскага аграгарадка!– рэзюмуе ад убачанага сённяшняга Глыбокага Антон Астаповіч.

І пытанне тут не ў спрэч спілаваных дрэвах. Няма канцэпцыі, няма бачання, што на развіцці турызма Глыбокае можа добра зарабіць. А раз няма такога разумення – няма і цікавасці да сваёй гісторыі і аховы помнікаў даўніны. Вось будынак колішняга кляштара кармелітаў стаіць у руінах. А гэта – помнік другой катэгорыі, г.зн. агульнанацыянальнага значэння! Вышэй па значнасці – толькі першая і нулявая катэгорыі, што знаходзяцца пад эгідай ЮНЭСКА. Ну, заваліцца кляштар праз год-другі... Няма кляштара – няма праблемаў!

Мы збіраемся напісаць некалькі «грозных» лістоў на адрас Глыбоцкага райвыканкама з нагоды крытычнага стану некаторых гістарычных аб'ектаў, якія, нібыта, «знаходзяцца пад аховай дзяржавы».

Мы будзем дамагацца праз Міністэрства культуры, каб глыбоцкія ўлады да Дня беларускага пісьменства на ўзведзенай аўтастаянцы пазначылі контуры будынка разбуранай міквы пліткай светлага колеру, каб гэтыя контуры былі бачныя на асфальце.







**На здымках:**
Уверсе – міква ў Зембіне (па дарозе з Глыбокага на Барысаў). Сучасны стан.
Усярэдзіне – абмерны чарцёж міквы ў Зембіне, які на мінулым тыдні выканаў Антон Вантух.
Унізе – рэканструкцыя міквы ў Зембіне ў фармаце 3D. Выканаў Антон Вантух.



**Старадаўняя цэгла даўжынёй звыш 30 см. На пярэднім плане – цэгла-пальчатка (з адбіткам пальцаў аднаго з вытворцаў цэглы).** *Фота Ул. Скрабатуна, 28.04.2012 г.*

# Вызвалім беларускі народ ад алкагольнага генацыду малітвай у Мосары!!!

*У Другую нядзелю месяца ў Мосары адбываецца малітва аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і беларускага грамадства.*

Падтрымліваючы традыцыю ў першую суботу кастрычніка, калі ў 2007 годзе ўжо памерлы ксёндз Юозас Булька разам з прадстаўнікамі групаў Ананімных Алкаголікаў (АА) з Беларусі і замежжа заснавалі Алею Цвярозасці, кожны год праводзіцца ўрачысты Дзень Цвярозасці, а ў гэтым годзе прыпадае 5-ці годдзе Алеі Цвярозасці – маленькі Юбілей.




У нашым касцёле ў кожную 2-ую нядзелю месяца, як і ў мінулым годзе, у Мосары ў 13:00 адбываецца малітва аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і нашага беларускага народа! Молімся ва ўсіх інтэнцыях, якія дасылаюць людзі, перад рэлііквіямі святога Юстына. Дарэчы ўжо хутка будзе зроблены інтэрнэт-сайт нашай парафіі, дзе можна будзе застаўляць інтэнцыі на малітву.



З 2008 года Мосар таксама з'яўляецца Зонай Цвярозасці.

У 2010 годзе ў першую суботу кастрычніка адбываліся канферэнцыі аб цвярозасці і была ўрачыста асвечана фігура Церпячага Хрыста на Алеі Цвярозасці. У гэтым 2011 годзе нават праходзіў у Глыбоцкім раёне Тыдзень Цвярозасці.



У гэтым 2012 годзе ў першую суботу кастрычніка запрашаем усіх жадаючых на сустрэчу груп Ананімных Алкаголікаў з нагоды 5-ці годдзя Алеі Цвярозасці, пасаджанай групамі АА з Беларусі і замежжа, і запрашаем вас таксама на трохдзённыя рэкалекцыі, якія плануем арганізаваць 5-7 кастрычніка, кульмінацыяй якіх будзе святкаванне Дня Цвярозасці.

Неўзабаве добрая слава Мосара пашыраецца і сапраўды паступова "Санктуарый" св. Юстына-мучаніка становіцца духоўным цэнтрам на базе створанай прыгажосці, які збірае вакол сябе людзей, якія шукаюць духоўную дапамогу, і становіцца духоўным цэнтрам і цвярдыняй малітвы аб вызваленні ад алкагалізму!!!

**Ксёндз Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар.*

Вул. Цэнтральная (касцёл).

211807 в. Мосар, п/а Мосар, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць.

+ 375-33-676-1000.

E-mail: Mosarterra@gmail.com,

Mosarland@open.by.

Alexius_blr@mail.by.

Skype:Alexius230.

# У цэнтры Глыбокага адбыўся пажар

■ Зміцер Лупач

**У самым цэнтры Глыбокага ў жылым доме каля 14 гадзін 30 красавіка адбыўся пажар. Глыбоцкім пажарным удалося даволі хутка яго ліквідаваць, ахвяр няма.**

Дарэчы, дом, які пацярпеў ад пажару, уваходзіць у лік аб'ектаў, што маюць гістарычную каштоўнасць.





## У сакавіку Беларусь лідзіравала сярод краін СНД і Еўропы па росту цэн

**У сакавіку 2012 года Беларусь заняла першае месца сярод шэрагу краін СНД і Еўропы па росту спажывецкіх цэн. Параўнальныя звесткі апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт. Дагэтуль ,больш чым паўгода, Беларусь заставалася лідарам па тэмпах інфляцыі. Толькі ў студзені 2012 года яе апярэдзіла Венгрыя, у лютым Беларусь таксама была на першым месцы.**

У сакавіку беларуская інфляцыя да лютага 2012 года склала 1,5%, у той час як у Літве і Эстоніі — 1%, Венгрыі — 0,8%, Іспаніі — 0,7%, Латвіі — 0,6%, Італіі, Польшчы, Расіі — 0,5%, Фінляндыі і Турцыі — 0,4%, Славакіі, Украіне, Балгарыі, Германіі, Казахстане — 0,3%, Чэхіі — 0,2%. У Нарвегіі цэны знізіліся на 0,1%.

Разам з тым Беларусь не ўвайшла ў тройку лідараў па росту індэкса цэн на прадукты харчавання і безалкагольных напояў у сакавіку адносна лютага і заняла шостае месца ў спісе з паказчыкам 0,9%. Такі паказчык у Венгрыі. Іх апярэдзілі: Чэхія — 1,9%, Славакія — 1,8%, Польшча — 1,2%, Літва — 1,1%. За Беларуссю і Венгрыяй ідуць: Расія — 0,8%, Балгарыя і Латвія — 0,7%, Казахстан і Фінляндыя — 0,5%, Германія —0,3%, Нарвегія і Украіна — 0,2%, Іспанія і Італія — 0,1%. У Турцыі цэны знізіліся на 0,3%, Ірландыі — на 0,1%.

У Беларусі ў 2011 годзе зафіксавана самая высокая інфляцыя за апошнія дзесяць гадоў. За год спажывецкія цэны ў Беларусі павялічыліся на 108,7%, у тым ліку за снежань — на 2,3%. Нагадаем, прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі планавалася інфляцыя на ўзроўні 7,5—8,5%. У 2012 годзе плануецца ўтрымаць інфляцыю ў межах 19—22%.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# У Беларусі павышаны кошт паляўнічых пуцёвак

**У Беларусі павышаны мінімальныя стаўкі платы за арэнду паляўнічых угоддзяў, мінімальны гранічны кошт паляўнічых пуцёвак, а таксама разавых дазволаў на здабычу паляўнічай жывёлы і паляўнічых пуцёвак да іх. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове ўрада № 331 ад 19 красавіка.**

Апошнім разам цэны на ўсе віды паляўнічагаспадарчай дзейнасці карэкціраваліся ў 2006 годзе, паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі.

Мінімальныя стаўкі платы за арэнду паляўнічых угоддзяў складуць ад 1 тыс. рублёў да 70 тыс. рублёў за 1 тыс. га ў залежнасці ад катэгорыі ўгоддзяў, а таксама ўзроўню іх радыеактыўнага забруджвання. Чым вышэйшы ўзровень забруджвання, тым ніжэйшая стаўка.

Змяніўся і мінімальны гранічны кошт паляўнічых пуцёвак, разавых дазволаў на здабычу паляўнічай жывёлы і паляўнічых пуцёвак да іх. Аднадзённая пуцёўка будзе каштаваць не менш чым 20 тыс. рублёў, сезонная — ад 150 тыс. рублёў.

Разавы дазвол на здабычу зубра абыдзецца: на сяголетка (народжанага ў гэтым годзе) у 10 млн. рублёў, на дарослую асобіну з рагамі 170 і больш балаў СІС у 160 млн. рублёў.

Здабыча лася будзе каштаваць ад 1 млн. рублёў (сяголетак) да 3 млн. рублёў (трафейны самец з улікам кошту разавага дазволу на здабычу паляўнічай жывёлы).

Мінімальны гранічны кошт на здабычу аленя высакароднага, аленя плямістага і лані еўрапейскай устаноўлены на ўзроўні 800 тыс. рублёў — 3 млн. рублёў, на казулю еўрапейскую — 120-350 тыс. рублёў, на дзіка — 150-600 тыс. рублёў, глушца — 400 тыс. рублёў цецерука ў вясновы сезон палявання — 100 тыс. рублёў, у асенні сезон — 60 тыс. рублёў, на бабра рачнога — 50 тыс. рублёў, выдру рачную — 200 тыс. рублёў.

На паляўнічыя пуцёўкі да разавых дазволаў на здабычу паляўнічай жывёлы ўстаноўлены наступны мінімальны гранічны кошт (з кожнага паляўнічага): на ўсе віды капытных жывёл, а таксама глушца і цецерука — 20 тыс. рублёў, на рачных бабра і выдру пры збройным і бяззбройным спосабе палявання — ад 15 тыс. рублёў (за адзін дзень палявання) да 200 тыс. рублёў (за сезон палявання). Пры бяззбройным спосабе палявання гэтыя лічбы складуць 10 тыс. рублёў і 150 тыс. рублёў адпаведна.

Пастановай зменены таксама гранічны мінімальны кошт паляўнічых трафеяў для замежных грамадзян. Напрыклад, адстрэл маладняку зубра абыдзецца замежным паляўнічым ад 3 тыс. еўра.

*Марына Носава, БелаПАН*

## Наш аўтар здае іспыты

Наш аўтар, **Аляксандр Івашчонак,** які скончыў Ягелонскі ўніверсітэт з тытулам бакалаўра гісторыі і архівіста, а пасля вучыўся ў Папскім універсітэце Яна Паўла II у Кракаве, дзе там атрымаў тытул бакалаўра гісторыі Усходняй Еўропы, цяпер вучыцца ў Папскім універсітэце Claretianum у Рыме ды працуе ў правінцыяльным архіве тэатынаў у Неапалі.

Зараз ён рыхтуецца да экзаменаў. З працягам **«Мястэчка Глыбокае»** трэба трохі пачакаць.

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Рыбаловам-аматарам у нататнік

З наступам цёплых дзён вельмі шмат пытанняў паступае ад рыбаловаў з нагоды збірання платы за рыбалку на арандаваных вадаёмах. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах: Карпінскае, Бярозаўскае – арандатар фермерская гаспадарка «Карпікі»; возера Крывое (каля в. Бабруйшчына) – арандатар ТАА «Сервік»; возера Чачалі – арандатар ПП «Аграбізнескансалт»; возера Свядава – арандатар СФГ «Свідава»; азёры Гулідаўскае і Ластавіцкае – арандатар ТАА «Старт» Мінскага раёна; вадасховішча «Азерцы» - арандатар Дзяржаўнае прадпрыемства «Азерцы».

На ўказаных вадаёмах мясцовым жыхарам выдаюцца бясплатныя пуцёўкі, іншым рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, для ажыццяўлення рыбалоўства неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, у выпадку адсутнасці пуцёўкі або адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаюцца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», г.зн. здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства). Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асобаў арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязковымі да выканання рыбаловамі, таму просьба быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

**Набыць пуцёўкі можна:** возера Чачалі, база адпачынку «Чачалі» – кругласутачна; азёры Карпінскае і Бярозаўскае – пры асабістым абыходзе арандатара вадаёмаў; возера Крывое, на базе адпачынку – кругласутачна, возера Свядава – пост аховы з боку аўтатрасы Глыбокае-Полацак; вадасховішча «Азерцы», азёры Гулідаўскае і Ластавіцкае – пры абыходзе прадстаўнікамі арандатараў. Указанымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выканаы неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі і іншых кантралюючых органаў патрабаванні да аказваемага пераліку паслуг арандатарамі будзе больш жорсткім, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі па ніжэй указаных тэлефонах.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.


На рацэ Мартва

## Віншаванкі

*Кастуся Бахіра*

**віншую з Днём нараджэння!**

Жадаю моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.
Няхай жыццё квітнее буйным цветам,
І нараджэння дзень прыходзіць зноў і зноў,
А доля няхай дорыць з кожным годам
Здароўе, шчасце, радасць і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы,
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды.



*Уладзімір*

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей хороших и весёлых,
Везенья в жизни, долгих лет!
Желаем, чтоб ушли печали,
Чтоб близкие не огорчали,
Чтоб были вёсны средь зимы и лета,
Чтоб было много-много света!
Чтобы преградам всем назло
Жилось, любилось и везло!
Чтоб всё заветное могло свершиться,
Ведь ради этого и стоило родиться!



*Калектыў "ВГ"*

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть звезды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится,
Пусть слезы никогда не блещут в них,
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнет всех хмурых дней ненастье.
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день в ладонях счастье!

*Сястра Надзя, пляменніца Насця.*

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пожеланий наших не счесть,
Так зачем же делить их на части,
Если все они, что ни есть,
Заключаются в слове Счастье.
Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и печаль на пути не встречались,
Огромного счастья и верных друзей,
Здоровья, успехов и солнечных Дней!



*Мама, тата.*

■ Кастусь Шыталь

# Грамадскія актывісты зладзілі талаку на сядзібе садавода Івана Сікоры

**Каля дваццаці чалавек сабраліся на талаку на сядзібе садавода-селекцыянера Івана Сікоры ў вёсцы Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна.**

Талака адбылася 29 красавіка. У талацэ прынялі ўдзел краязнаўцы, мастакі, грамадскія актывісты з усяго рэгіёна. Прыехалі Ганна Базарэвіч з Браслава, Ада і Алег Райчонкі з Германавічаў, Зміцер Курцэвіч з Дзеркаўшчыны, Міхал і Лілія Гілі, Ігар Пракаповіч з Паставаў ды іншыя добрыя людзі.

Як распавяла грамадская дзеячка Ада Райчонак, удзельнікі талакі прыбралі смецце, адрамантавалі брамку, спілавалі сухія галіны з дрэў, пасадзілі кветкі. Калі мелі перапынак у працы, частаваліся гарбатай са старадаўняга самавару і пернікамі, што спякла Лілія Гіль.

"Сабраліся цікавыя і шчырыя людзі, працавалі шчыра", – кажа Ада Эльеўна.

Калі талака скончылася, выдавец Валер Булгакаў і гісторык Алесь Пашкевіч правялі прэзентацыю кніг і часопісаў "Архэ".



* * *

**Іван Сікора** нарадзіўся ў 1885 годзе ў вёсцы Малыя Алашкі (зараз Шаркоўшчынскі раён). У 20-я гады XX стагоддзя працаваў настаўнікам; звольнены на загад польскіх уладаў, бо выкладаў пабеларуску.

Пасля звальнення з настаўніцкай працы асвоіў працу садавода. Вывеў каля 500 гатункаў яблыні, 100 гатункаў груш, многія гатункі сліваў, бэзу, ружаў. У многіх садах нашага краю растуць яблыкі "Памяць Сікоры" – яны смачныя і добра захоўваюцца.

Іван Сікора памёр у 1966 годзе. Некалькі год таму сябры культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча набылі хату садавода, падтрымліваюць там парадак.

**Віктар Сікора**, сын Івана, пры нямецкай акупацыі быў сябрам Саюза беларускай моладзі і таемнай Беларускай незалежніцкай партыі. Пасля прыходу Чырвонай арміі ўзначаліў антысавецкі партызанскі атрад. Адседзеў дзесяць год у ГУЛАГу, вярнуўся ў 1954 годзе. Жыў у Малых Алашках, памёр у 2008 годзе.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 траўня




**06.00**, **07.10**, **07.35**, **08.15**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **23.50** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**, **08.30** Деловая жизнь.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.50** Тэлефільм АТН «Расоншчына - край крышталёвых рос» цыкла «Зямля беларуская».
**11.05** **«Когда ее совсем не ждешь…»** (Украина).
**12.10** **«Маргоша»**
**14.00** Док.цикл «Сваты. Жизнь без грима» (Украина). Фильм «Николай Добрынин».
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** **Мультфильм.**
**15.35** Драматическая фантазия «День полнолуния» (Россия).
**17.15** **«Маруся»** (Украина).
**18.15** Арена.
**18.45**, **00.05** Зона Х. Криминальная хроника.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Когда ее совсем не ждешь…»** (Украина). Заключительная серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум.
**22.45** Дневник «Евровидения» с Денисом Курьяном.
**22.55** **«Обмани меня»** (США).
**00.15** День спорта.
**00.30** Драматическая фантазия **«День полнолуния»**




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Бедная Настя»**. Многосерийный фильм.
**12.00** «Василий Лановой. И страсть, и слезы, и любовь…».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Криминальные хроники».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Евгений Стычкин, Иван Ургант в комедии **«От 180 и выше»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Контрразведка. Рассекреченный фронт».
**19.05** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: «Открытый формат».
**22.05** **«Закрытая школа»**
**23.10** Премьера. Великая война. «Агентурная разведка».
**00.10-00.40** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Кинопробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.10** **«Капля света»** (Украина). 1-я серия.
**11.10** Битва экстрасенсов.
**12.15** Школа ремонта.
**13.20** Приключенческий сериал **«Три талера»** («Белтелерадиокомпания»). 1-я – 4-я, заключительная, серии.
**16.55** Военно-шпионский детектив **«Спасите наши души»** (Россия).
**17.55** **«Капля света»** (Украина). 1-я серия.
**18.55** Футбол. Альфа-Банк – Чемпионат Республики Беларусь. Динамо (Минск) – Шахтер. Прямая трансляция.
**20.55** Телебарометр.
**21.00** Хоккей. Чемпионат мира. США – Словакия. В перерыве: КЕНО.
**23.10** Овертайм.
**23.40** Военно-шпионский детектив **«Спасите наши души»** (Россия).
**00.35** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Горячий лед».
**13.05** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Студенты-2»**
**14.40** «Большой город».
**15.15** «Звездный ринг». Сергей Пукст против группы «The road dogs».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.00** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кинопонедельник»: Екатерина Федулова, Евгений Цыганов и Ирина Рахманова в фильме **«ПИТЕР FM»**. Россия, 2006 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».
**23.50** «Адская кухня».




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10** Басанож па свеце
**8:40** Прэс-экспрэс
**8:55** Моўнік
**9:05** **«Час гонару»**, серыял
**9:50** «Глыбінка 35х45», дак. фільм, рэж. Яўгеній Саломін , 2009 г., Расея
**10:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10:50** Эксперт
**11:20** «Згубленыя вакацыі». Чэхія
**12:45** Прэс-экспрэс
**13:05** Басанож па свеце
**13:30** «Глыбінка 35х45», дак. фільм, рэж. Яўгеній Саломін , 2009 г., Расея
**14:15** **«Час гонару»**
**15:05** Эксперт
**15:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**15:45** Моўнік
**15:55** «Дзіцячая гара»
**17:00** **«Мой родны горад»**: 39 серыя
**17:25** Моўнік
**17:30** Вагон
**17:40** Навігатар
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** Зона «Свабоды»
**18:45** «Вольга Іпатава», рэпартаж
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Гарачы каментар
**19:20** Еўропа сёння
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** Маю права
**20:30** «Тэра постсаветыка. Катынь» , дак. фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:50** Фільматэка майстроў: **«Навука сну»**
**23:35** Аб'ектыў
**0:00** Гарачы каментар

